№ 13 (135)

Чацвер, 23 студзеня 1997 г.

Выдаецца на беларускай і рускай мовах

Кошт у кіёсках і крамах — 1500 руб. у індывідуальных гандляроў — свабодна.

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас



**23 студзеня**
Узыход Сонца 8.41
Заход Сонца 16.42
Даўжыня дня 8.01
*Поўня ў 17 гадз 11 мін*



## Ці адбяруць у пісьменнікаў Дом літаратара?

**Ходзяць чуткі, што чыноўнікі збіраюцца адабраць у пісьменнікаў Дом літаратара.**

Ці праўда? У Саюзе пісьменнікаў паведамілі, што пра канкрэтныя захады ў такім накірунку яны не ведаюць. Але правяраючыя ўжо не раз цікавіліся такімі пытаннямі: калі і кім ён пабудаваны? За якія сродкі? Які даход ад структур, што прыжыліся ў доме? Так што, відаць, "капаюць".

Зразумела, што такі "прынадны кавалачак" у цэнтры горада можа спакусіць многіх.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

## Мясніковіч арыштаваны?

**Цікавы выпадак здарыўся на днях у Адміністрацыі прэзідэнта Лукашэнкі.**

Па нашай інфармацыі, у Адміністрацыю патэлефанавалі журналісты з "Радыё Расіі" і запыталіся: "Ці праўда, што наступнай ахвярай арыштаў у Беларусі стаў кіраўнік прэзідэнцкай Адміністрацыі Міхаіл Мясніковіч?". Відаць, непрыемнасць з Тамарай Вінікавай не на жарт усхвалявала маскоўскіх журналістаў. Збянтэжаны такім пытаннем супрацоўнік Адміністрацыі не знайшоў нічога іншага, як сказаць, што дакладна не ведае і пабег на нараду, якую ў гэты час праводзіў Міхаіл Уладзіміраіч, каб на самай справе пераканацца: працуе ён яшчэ ці не? "Радыё Расіі" на гэтым не супакоілася і патэлефанавала ў адно беларускае інфармацыйнае агенцтва, прадстаўнік якога ўсё нам і расказаў.

Гэты анекдатычны выпадак ужо стаў добрым жартам у асяродку беларускіх журналістаў.

**Уладзіслава ЛЕНСКАЯ.**

**Стоп-кадр**

Вечны шлях.

Фота Аляксандра ІГНАЦЮКА.

*Людміла МАЙСЕНЯ*

# ПЛАГІЯТ?

Цяжка сказаць, ці існуе перасяленне чалавечых душ, але перамяшчэнне знаёмых сцэнарыяў на новыя гістарычныя падмосткі з новымі рэжысёрамі і акцёрамі заўважалася аналітыкамі ўжо неаднаразова. Аналіз "новага парадку" на Беларусі вымушае звярнуць уважлівы погляд на пэўную заходнееўрапейскую прэм'еру, тым больш што выканаўца галоўнай ролі ў беларускім варыянце абірае для сябе сцэнарый сам. Кажучы пра свае творчыя прыхільнасці і планы, наш Вялікі Акцёр сказаў: *"И не всё только плохое связано в Германии с известным Адольфом Гитлером. Вспомните его власть в Германии"*. І мы ўспамінаем. А каб зрабіць больш-менш грунтоўны аналіз, спынімся толькі на адным палітычным спектаклі, які ў арыгінале меў назву "Аншлюс".

### Што назіралася ў арыгінале

*Anschluß ("аншлюс" — ням.) — далучэнне, уключэнне.* У гістарыяграфіі і паліталогіі гэтае паняцце стала замацавалася за скасаваннем незалежнасці Аўстрыі ў 1938 годзе. Дзеля пераканальнасці нашых высноў звернемся да кароткай інфармацыі з Беларускай энцыклапедыі (т.1, Мн., 1996). "Аншлюс — патрабаванне аб'яднаць Аўстрыю і Германію ў адзіную дзяржаву ў праграмах часткі аўстрыйскіх і германскіх палітычных сіл... У сакавіку 1931-га Германія і Аўстрыя падпісалі пагадненне аб мытным саюзе ("халодны аншлюс"). Пратэсты ўрадаў Вялікабрытаніі, Францыі, Італіі, Чэхаславакіі і Міжнародны суд у Гаазе прымусілі Германію і Аўстрыю адмовіцца ад пагаднення.

...У канцы 1937 — пачатку 1938 года Гітлер, дамогшыся згоды з Мусаліні і не сустрэўшы пярэчанняў з боку Вялікабрытаніі і ЗША, забяспечыў знешнепалітычную падтрымку аншлюса. У лютым 1938 года ён прымусіў пайсці ў адстаўку аўстрыйскі ўрад К.Шушніга (пасля таго, як Шушніг падпісаў дамову, па якой улада перадавалася Гітлеру; затым Шушніг быў адпраўлены ў канцлагер. — Л.М.). Прызначаны яшчэ гэтым урадам на 13 сакавіка плебісцыт (у нашай палітычнай лексіцы — рэферэндум. — Л.М.) праходзіў пад кантролем уведзеных у Аўстрыю 12.3.1938 года германскіх войскаў, што адбілася на яго выніках — 99% насельніцтва прагаласавалі за аншлюс. На пачатку красавіка 1938 года Вялікабрытанія, Францыя, ЗША ліквідавалі свае дыпламатычныя місіі ў Вене, фактычна прызнаўшы аншлюс".

Да дакладнага цытавання інфармацыі з БелЭН дададзім яшчэ некалькі гістарычных звестак: радзімай А. Гітлера з'яўляецца Аўстрыя, усяго ён арганізаваў пяць цалкам пераможных рэферэндумаў, у барацьбе за ўладу выкарыстоўваў бязмежную дэмагогію, шантаж, прапаведзь пангерманізму; упершыню ідэю далучэння да Германіі выказаў *Часовы нацыянальны сход* Аўстрыі; да моманту аншлюса вядучыя нямецкія манаполіі заўладалі асноўнымі аўстрыйскімі прадпрыемствамі; у Берліне быў распрацаваны спецыяльны план захопу Аўстрыі; у 1936 годзе ўрад Гітлера прымусіў Аўстрыю падпісаць пагадненне, паводле якога яна абвяшчалася "другой германскай дзяржавай"; у аснове ідэалагічнай падрыхтоўкі аншлюса ляжалі сцвярджэнні, што аўстрыйскай нацыі не існуе.

Што было потым, вядома кожнаму школьніку. Трэцяму Рэйху стала цесна і ў пашыраных межах. Але наступнае трыумфальнае шэсце па Еўропе і авантурны план. *"Drang nach Osten"* былі аплачаны мільёнам жыццяў і ганебнай гібеллю фюрэра...

Прымусовы аншлюс Аўстрыі быў ануляваны пасля скančэння другой сусветнай вайны. Незалежная аўстрыйская дзяржава аднавілася і не збіраецца больш аб'ядноўвацца. Занадта дарагі атрымаўся ўрок...

Такімі былі пачатак і канец той трагедыі.

### Што мы маем у нашым тэатры

Аналіз сённяшняй палітычнай сітуацыі ў Беларусі паказвае, што выбраны не толькі той жа сцэнарый, але і да непрыстойнасці падобныя ўсе дэталі пастаноўкі. Змяненні настолькі малыя, што нават нельга назваць іх знаходкамі і тым болей арыгінальнымі. Не вызначана, праўда, назва спектакля. Ясна толькі, што ён не будзе называцца "Аншлюс" (каб прыхаваць плагіят?). Наконт назвы распачаты вялікамаштабны конкурс. У залежнасці ад амбіцый і палітычных прыхільнасцяў канкурсантаў прапаноўваюцца як лаціна-аславяненыя варыянты *Інтэграцыя, Канфедэрацыя, Федэрацыя,* так і выключна славянскія *Аб'яднанне, Уз'яднанне.* Бясспрэчна, назва залежыць ад лагічнага завяршэння спектакля, як і наадварот - яна дыктуе пэўную яго логіку. Але ў нашым правінцыйным тэатры тут пакуль што поўны сумбур. Ніяк не ўдаецца таксама атрымаць шырокую вонкавую падтрымку - ні маральную, ні матэрыяльную. Застаецца апошняя надзея — Хусейн або Мілошавіч (замест Мусаліні?). У астатнім можна рапартаваць — да генеральнай рэпетыцыі гатовы: мытны саюз (і нават болей!) ёсць; пераможныя перадрэферэндумы прайшлі; войскі ўведзены (дакладней, не выведзены); да выканання партыі панславізму і вялікадзяржаўнага шавінізму хор у наяўнасці; Нацыянальны сход (дарэчы, навошта ж назву органа пакідаць такую ж?!) пачынае вуснамі асобных сваіх членаў напрамую выказваць аб'яднаўчую ідэю; для агучвання падключаны лепшыя рэзанатары. І далей усё паводле тэксту: найлепшыя беларускія прадпрыемствы ўжо гатовы да перадачы манаполіям з імперыі; замест плана захопу Беларусі распрацаваны план яе "продажу-куплі"; замест абвяшчэння "другой германскай дзяржавы" праходзіць рэпетыцыя сцэны "малодшая сястра старэйшага брата". На мой погляд, яшчэ слабавата адпрацавана сюжэтная лінія "беларускай нацыі не існуе". Магчыма, перашкаджаюць рэальныя беларускія нацыяналісты, якіх пакуль не ўдаецца ліквідаваць. Праўда, гэты лейтматыў усё ж не губляецца, і ўсе падрыхтоўчыя працы праведзены: у дэкарацыях старанна знішчаецца нават намёк на беларускую адметнасць; п'еса перакладзена на "великий и могучий"; на ўсе асноўныя ролі запрошаны акцёры з метраполіі або "савецкія беларусы", што прысягнулі на вернасць Вялікай Імперыі. Усё ідзе па плану. Ёсць і тытуляваны мастак — аўтар дэкарацый, і мабільны кампазітар — аўтар песні "Товарищ президент" (яе прэм'ера стане працягам спектакля). І ўсё ж...

Усё ж нельга не звярнуць увагу на адну акалічнасць, якая вымушае сумнявацца, што ўсё будзе зроблена трыумфальна. Яшчэ толькі плануецца падысці да ўвасаблення ў беларускім варыянце самай істотнай сцэны. Менавіта: паводле сцэнарыя Галоўны інтэгратар ("аншлюснік", ці як там?) паходзіць з краіны, якая далучаецца, *але ў момант кульмінацыі (аншлюса) ён ужо Прэзідэнт дзяржавы, да якой далучаюць.* Пакуль што ў нас тут "збой". А бліжэй да генеральнай рэпетыцыі і ўвогуле ўсё істэрычна змяшалася: Галоўны інтэгратар адціскаецца Яшчэ Больш Галоўным інтэгратарам. І гэта ўжо занадта сур'ёзна, каб заставацца проста гледачамі.

Гісторыя, як вядома, паўтараецца двойчы: адзін раз у выглядзе трагедыі, а другі раз — у выглядзе фарсу (хацелася б спадзявацца). Але ў нашым выпадку рука новага (ужо славянскага) фюрэра можа пацягнуцца да "ядзернай кнопкі"...

**Об этом говорят все...**

# Новелла о праве съесть курицу

**Минуло два месяца со дня проведения референдума, после которого в Беларуси не должно было остаться никаких проблем. Но...**

Авторы и апологеты внесенной на референдум президентской Конституции с особой страстью пропагандировали ст.21: "Обеспечение прав и свобод граждан Республики Беларусь является высшей целью государства".

Действительно, новелле — "Каждый имеет право на достойный уровень жизни, включая достаточное питание, одежду, жилье и постоянное улучшение необходимых для этого условий", — могут позавидовать граждане самых развитых государств планеты. Давайте зададимся вопросом: а что же это такое — достаточное питание, одежда, жилье? Думаю, что ответа на этот вопрос не существует в природе. Ведь еще известный советский писатель, дедушка известного российского политика, в одной тимуровской повести писал: "Что такое счастье — каждый понимал по-своему..." Но есть такое понятие (впрочем, достаточно далекое от достойного уровня жизни), как минимальный потребительский бюджет. По оценкам независимых экспертов, он составляет сейчас для Беларуси около 150 долларов США. Среднемесячная же зарплата за последние месяцы у нас — 1,3—1,4 миллиона белорусских рублей, примерно такую же сумму власти официально называют в качестве минимального потребительского бюджета. Большинство же граждан и этому удивляются: откуда берется такая среднемесячная зарплата?

Итак, насколько же "достойней" стал наш уровень жизни за эти два месяца, насколько "улучшились" необходимые для этого условия? Не будем говорить о новой одежде — это для большинства народа предмет мечтаний. Но о хлебе насущном человеку нужно не только думать каждый день, но и каждый день иметь его на столе. А к хлебу хотелось бы и чего-нибудь посущественней. Да уж больно все остальное кусаться стало. Масло сливочное еще в день референдума стоило 43 тысячи, а нынче уже — до 78 тысяч белорусских рублей, цена выросла на 80 процентов. Покупая к референдуму цыпленка, хозяйка платила за килограмм также по 43 тысячи, сегодня ей приходится выложить 59600 рублей (рост — 36 процентов). В день референдума говядину первой категории можно было купить по 28 тысяч за килограмм, а сейчас она — 50400 (80 процентов роста).

Но с особо угрюмым видом отшатывается народ от колбасных витрин: здесь все более-менее съедобное давно перешагнуло стотысячный и даже двухсоттысячный предел. Наконец, к столу по случаю праздника не мешало бы прикупить и того, к чему полагается вся эта закусь. Отмечая референдум, граждане раскошеливались на 24—28 тысяч рублей за бутылку в зависимости от сорта водки, теперь же придется выложить от 32800 до 34100 рублей. И так далее, и тому подобное.

Закрывать дальше глаза на повышение цен было невозможно. И в самый торжественный момент перед новоиспеченным сенатом президент вынужден был заявить, что цены вырастут сначала на 15 процентов, затем — лишь на пять, а потом перестанут расти вовсе. Очень хотелось бы поверить Александру Григорьевичу в очередной раз. Но не могу: передо мной Указ N 345 от 30 августа 1996 года "О некоторых мерах по упорядочению ценообразования на территории Республики Беларусь". Пункт первый Указа гласит: "Не допускать на территории Республики Беларусь рост цен на товары (работы, услуги) без соответствующего роста заработной платы". Увы, когда еще вырастет та зарплата, а в магазин деньги надо нести ежедневно. А там все меньше и меньше отечественных продуктов и товаров. И не случайно не сходят с голубых экранов младенцы, их мамы и бабушки, облизывающие пальчики, пробуя "Раму". Наш рынок планомерно завоевывается. Хотели бы мы этого или нет, наш уровень жизни напрямую связан с курсом доллара. Его обвальное падение в последние дни свело на нет то повышение зарплаты, которое работники бюджетной сферы должны были почувствовать в феврале, и то небольшое повышение пенсий и пособий, которое позволило себе государство. Как ни печально это сознавать, но максимальная пенсия в ноябре, составлявшая 621 тысячу рублей, была эквивалентна 30 долларам, в январе выросшая до 749900 рублей максимальная пенсия реально снизилась на 5 долларов. Минимальная пенсия в ноябре исчислялась в 267 тысяч рублей (примерно 13 долларов), в январе выросшая на 37800 рублей, она фактически уменьшилась до 10 долларов. Да, курс доллара в последние дни чуточку упал, но взлетевшие цены не упадут и, боюсь, к моменту публикации все эти данные могут устареть.

О каком достойном уровне жизни могут говорить семьи, воспитывающие детей и получающие по-прежнему мизерное семейное пособие?

Как отмечалось на прошедшем в середине декабря съезде Белорусского союза женщин, в работе которого принимал участие сам президент, материальное положение 60 процентов женщин сегодня не позволяет удовлетворить даже элементарные потребности: обеспечить полноценное питание детей, приобрести одежду и обувь, оплатить медикаменты и коммунальные услуги. Не случайно еще на августовских конференциях перед началом учебного года обсуждался актуальный вопрос: как учить голодных детей?

Итак, право на достойный уровень жизни референдум дал. Государство гарантировало права и свободы, закрепленные в Конституции. Каждый имеет право требовать в исковом порядке через суд их реализации. Только вот с кого спрашивать и кому предъявлять иск? Премьер-министра нет, министр финансов ушел в отставку, председатель правления Национального банка — в камере следственного изолятора КГБ (с только что назначенного какой спрос — он всего несколько дней в должности). А президенту нашему опять мешают, на этот раз уже "вертикальщики" из самого ближайшего окружения. Так что ему не до нас и наших забот.

**Елена СКРИГАН,**
**председатель комиссии Президиума Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва по вопросам социальной защиты населения.**

**Цікава ведаць...**

## Калі мы пачуем "Радыё 101,2"?

Па-ранейшаму працягваецца блакада адзінага беларускамоўнага радыё на хвалі 101,2FM. Нягледзячы на тое, што неабходная для вяшчання антэна ўжо выраблена на гомельскім радыёзаводзе "Луч" і прывезена ў Мінск, улады не даюць дазволу на яе ўсталяванне ў Калодзішчах.

Намеснік міністра сувязі Любоў Пакрышка, каменціруя гэты факт, адзначыла, што яе ведамства не будзе чыніць тэхнічных перашкод радыёстанцыі, і, як толькі рэдакцыя радыё вырашыць пытанне аб парадку вяшчання ў Мінгарвыканкоме, перадатчык будзе ўстаноўлены. Але выканаўчыя гарадскія ўлады да цяперашняга часу адказу кіраўніцтву радыё не далі.

Журналісты радыёстанцыі, аднак, не губляюць надзеі, што ў хуткім часе зноў выйдуць у эфір. Акрамя бясконцых паходаў у дзяржаўныя інстанцыі, яны таксама пачалі займацца распрацоўкай новых цікавых праектаў. Адзін з іх — стварэнне рэкламна-інфармацыйнага агенцтва "101,2", якое пачне сваю дзейнасць ужо ў бліжэйшы час.

**Марыя НАРЭЙКА.**

**Галерея**

## Чернобыль глазами художника

**В Могилевском областном художественном музее целый месяц будут выставляться работы известного белорусского художника Владимира Гордиенко.**

Работ очень много. И в музее они занимают пять залов. Вообще, эта выставка несколько шире по тематике и по объему, чем предыдущая, которая демонстрировалась в минском Дворце искусств. Но основа прежняя — Полесье. Зона, которую не пощадил Чернобыль...

По словам Гордиенко, основная серия его работ еще впереди. Она будет посвящена двадцати пяти отселенным деревням Хойникского района. В этой серии будет порядка ста работ. Кстати, с некоторыми из них уже можно познакомиться в Могилевском музее.

**Марина КОКТЫШ.**

## Гэтыя прэміі асабліва дарагія

**Споўнілася 30 гадоў з дня гераічнай гібелі машыніста Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі Уладзіміра Яцкевіча.**

У студзені 1967 года ён вёў пасажырскі поезд, які накіроўваўся ў Талін. За паваротам машыніст убачыў на пуцях вагоны, што адчапіліся ад грузавога саставу. Цаной уласнага жыцця ён зрабіў усё магчымае, каб змякчыць немінучае сутыкненне. У памяць аб гэтым подзвігу кіраўніцтва Беларускай чыгункі ўстанавіла прэміі імя машыніста Уладзіміра Яцкевіча.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА у прэс-службе чыгункі, першымі ўладальнікамі прэмій сталі Віцебскае аддзяленне Беларускай чыгункі, станцыя Наваполацк, Віцебская дыстанцыя пуці, пункт падрыхтоўкі вагонаў станцыі Барбароў, Аранчыцкі раён кантактнай сеткі, пяты акалодак Барысаўскай дыстанцыі пуці, саветы грамадскіх інспектараў па бяспецы руху станцыі Орша, Гомельскай дыстанцыі сігналізацыі і сувязі, а таксама шэсць лепшых работнікаў чыгункі. Гэтыя прэміі прысуджаны ім за значны ўклад у забеспячэнне бяспекі руху ў 1996 годзе.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

## Беларускія грамадскія арганізацыі Літвы аб'ядноўваюцца

У Літве цяпер дзейнічае каля 30 грамадска-асветніцкіх і культурных арганізацый беларусаў. Нядаўна іх прадстаўнікі правялі першую сустрэчу, дзе прынята рашэнне стварыць Аб'яднанне беларускіх грамадскіх арганізацый. Асноўнымі напрамкамі дзейнасці Аб'яднання будуць работа па захаванню роднай мовы, вывучэнне гісторыі, культуры, звычаяў і традыцый беларускага народа.

Разам з тым сустрэча паказала цікавасць беларусаў Літвы і да палітычных працэсаў, якія адбываюцца на гістарычнай радзіме. Пры іх абмеркаванні некаторыя ўдзельнікі крытычна ацэньвалі ідэю аб'яднання беларускай і расійскай дзяржаў, а таксама выказвалі нязгоду з праведзенымі ў Беларусі палітычнымі рэформамі.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС, БЕЛТА.**



**Як жывуць заводы?**

## МТЗ: хвалюе памер зарплаты і перабоі ў другой змене

**Як пачаў новы год калектыў Мінскага трактарнага завода? На гэту тэму мы пагутарылі з намеснікам старшыні прафсаюзнага камітэта прадпрыемства Аляксандрам Карцавым.**

Ён паведаміў, што пасля "калядных канікул", якія закончыліся восьмага студзеня, калектыў завода прыступіў да работы. Спрабуюць працаваць у дзве змены, але ў другой нярэдка здараюцца прастоі з-за адсутнасці фронта работ.

**— Колькі вы зараз выпускаеце трактароў?**

— З кастрычніка мінулага года тры тысячы ў месяц. Мяркуем захаваць такі тэмп.

**— А колькі вы іх выпускалі раней, гадоў гэтак пяць назад?**

— Тады тысяч па восем у месяц.

**— Колькасць працуючых у параўнанні з тым перыядам намнога зменшылася?**

— Не вельмі, хаця адток рабочай сілы адбыўся. Мы стараемся зберагчы вытворчы калектыў.

**— Якая сярэдняя зарплата?**

— Прыкладна 1,5 мільёна рублёў.

**— Выплачваецца без затрымак?**

— Так. Зараз атрымліваем за снежань.

**— Якія галоўныя праблемы, што турбуюць калектыў?**

— Вядома ж, зарплата. Дакладней яе памер. І перабоі з атрыманнем тонкалістага металу і чыгуна. На яго пакупку не хапае валюты.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

## "Позднюю любовь" Солодухи увидим осенью

**Не так давно на белорусском телевидении можно было лицезреть ток-шоу "Карамболь" с участием известного белорусского певца Александра Солодухи.**

— Честно говоря, эфир мне так и не удалось посмотреть, — услышала я от Солодухи. — Именно в это время в Доме офицеров к финальному действу подходил сборный концерт: шампанское, аплодисменты и все такое. Пришлось смотреть в записи. В общем-то, получилось неплохо. Кстати, первым после передачи позвонил мой очень хороший друг Олег Елисеенков.

Однако чем дальше, тем больше я прихожу к выводу, что наши средства массовой информации не очень-то жалуют свое, белорусское. Смешно, когда видишь, как все раскланиваются перед российскими звездами. И в то же время практически никакого внимания не уделяют доморощенному, национальному, истинно белорусскому. Отбросив ложную скромность, приведу пример. Практически все радиостанции Санкт-Петербурга крутят мой компакт-диск. У нас же — только радио Би-Эй. Я никого не хочу обидеть, но я всего достиг сам. Сегодня у меня каскад эфиров, снимается пятый клип. Я очень много работаю. И мне просто больно все это наблюдать.

**— Знаю, что недавно Вы отмечали свой День рождения...**

— Так сложилось, что именно в этот день у меня обычно бывают концерты. Но за десять лет творческой деятельности я к этому привык.

**— Глядя на Вас, можно сказать, что Козероги по натуре люди сильные.**

— Конечно. Вообще, мне присуще одно из самых ярких качеств Козерога — всегда и везде добиваться своей цели. Чего бы это ни стоило.

**— Говорят, что очень скоро на телевидении появится очередной шедевр — клип к песне "Поздняя любовь".**

— Этот клип я планирую снять ближе к осени. А вот уже к 8-му Марта хочу запустить клипы к песням "Любимая женщина" и "Дорога моя". Кстати, весной намереваюсь сделать турне по большим городам России и Беларуси.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

*P.S: "Народная воля", хоть и с небольшим опозданием, поздравляет Александра Солодуху с Днем рождения и желает здоровья, любви и больших творческих успехов!*

Задумаемся

# Хопіць будаваць "ізмы", ад якіх кідае ў дрыжыкі

Даць чалавеку магчымасць рэалізаваць сябе — абавязак дзяржавы. Хопіць будаваць "ізмы", ад якіх кідае ў дрыжыкі. Мы ўжо будавалі камунізм, прычым не толькі ў сябе, але і ва ўсім свеце. Потым вырашылі спачатку пабудаваць сацыялізм. Пабудавалі. И гэта было тады, калі ў калгасе працавалі за "палачку", а за хлебам у магазінах стаялі чэргі.

Пабудавалі сацыялізм і перайшлі ў стадыю "развітога сацыялізма". Кажуць, да 1985 года мы яго будавалі. I выглядаў гэты чарговы "ізм" так: уладкавацца на "калымную" працу — па блату, лекі — па блату, кватэры — па блату, машыны — па блату, танная каўбаса (па ёй сёння многія плачуць) — па блату, паступіць у вышэйшую навучальную ўстанову — па блату. I гэты спіс можна працягваць да бясконцасці.

Сёння наша кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь будуе новы "ізм" — рынкавы сацыялізм.

Што гэта такое — ніхто ў свеце не ведаў, не ведае і ведаць не будзе, бо гэта проста нейкая недарэчная фантазія.

Сацыялізм як дзяржаўны лад азначае, што ўсё (зямля, яе нетры, сродкі вытворчасці і іншае) з'яўляецца ўласнасцю дзяржавы. Распараджаецца гэтай уласнасцю дзяржаўны чыноўнік. А ён не той уласнік, які імкнецца кожны дзень памнажаць, удасканальваць сваю ўласнасць, які сёння гатовы ўкласці сродкі, каб заўтра атрымаць прыбытак. Прызначаны кіраваць, дзяржаўны чыноўнік са сваёй кішэні нічога не ўкладзе ў дзяржаўную ўласнасць. Ён толькі возьме з яе ўсё, што зможа ўзяць. I бярэ.

Прыклады? Калі ласка, іх колькі хочаш. З дзяржаўных прадпрыемстваў цягнуць так, што хутка застануцца толькі разваленыя сцены. А чыноўнікі розных дзяржаўных устаноў пра што думаюць? Як лепш працаваць? Не, як узяць хабар.

А што далей? Будзем выдумляць новыя тэрміны: рынкавы сацыялізм, сярэдні заробак, мінімальны заробак, спажывецкі кошык. Хоць новы тлумачальны слоўнік выпускай для шырокага ўжытку ў Беларусі!

Тое, што сёння ёсць на Беларусі, можна вызначыць так: выжывай, як зможаш! I людзі імкнуцца выжыць. I зноў барацьба за месца ў жыцці. Спосаб выжывання ў нас сёння сярэдневяковы — дзякуючы торбе. Каб сёння, напрыканцы XX стагоддзя, большасць грамадзян Рэспублікі Беларусь мелі адзіны сродак для выжывання — торбу, гэта ж абсурд!

Жанчына, якая два і болей месяцаў не атрымлівае зарплату і ў якой дома дзеці, бярэ ў рукі торбу і едзе ў Польшчу (хто — у Літву, хто — у Расію), каб праз купі-прадай забяспечыць выжыванне сваёй сям'і. Яна надрываецца, цягнучы гэту торбу-вагон, на граніцы плаціць, каму загадаюць і колькі загадаюць, бо ніякага парадку там няма, плаціць на рынку (і нямала), яе трасе рэкіцір, яна мерзне на рынку. А што ад той торбы застаецца? Не так і многа.

Мне ўспамінаецца бацькава гаспадарка і хочацца ўявіць, якой бы яна была сёння. I міжволі ўзнікае пытанне: як жа мы будзем жыць далей?

Што выбіраем: ці станавіцца самім гаспадарамі, няхай і праз вялікія цяжкасці, ці і надалей жыць з торбай, як жывеш сёння; ці будаваць сваю незалежную дзяржаву, выкарыстоўваючы ўвесь свой патэнцыял (а ён у нас ёсць), ці надалей стаяць на каленях перад "старэйшым братам": з жахам чакаць, што ён скажа — "дам" ці не "дам"?

Давайце разам пашукаем адказ на гэтыя пытанні.

**Валянціна КАЛАСОЎСКАЯ, пенсіянерка,**
г.Бабруйск.

Крымінал

# Ездзіць у паяздах будзе больш бяспечна?

**Упраўленне ўнутраных спраў на транспарце мае намер павялічыць колькасць нарадаў міліцыі, якія суправаджаюць паязды. Гэта выклікана тым, што нягледзячы на ўсе прымаемыя меры, колькасць правапарушэнняў у прыгарадных паяздах і паяздах далёкага напрамку працягвае расці.**

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе ўпраўлення, паводле вынікаў мінулага года ў паяздах учынена 321 крымінальнае злачынства, што на 3,5 працэнта больш, чым у 1995 годзе. Большасць з іх склалі крадзяжы. Акрамя таго, у паяздах былі ўчынены два забойствы, нанесены тры цяжкія цялесныя пашкоджанні, адбылося 11 разбойных нападаў і 56 грабяжоў. Работнікі транспартнай міліцыі спынілі 130 спроб перавозу наркотыкаў і наркатычных рэчываў - у два разы больш, чым у 1995 годзе. Пры гэтым было канфіскавана 200 кілаграмаў макавай саломкі і больш чым 200 грамаў опіуму.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

С будущим новосельем!

# Хочу строиться, но не знаю, сколько теперь стоит лес...

*Решил строить деревянный дом со всеми хозяйственными пристройками. Но вот вытяну ли по деньгам? Какие, интересно, тарифы у нас на древесину основных лесных пород, отпускаемых на корню?*

***Семен ПОЛЮХОВИЧ, Пинский район.***

16 декабря 1996 года правительство Республики Беларусь приняло постановление, в котором определены следующие таксы на древесину основных лесных пород, отпускаемых на корню:

| Разряд такс | Такса (рублей за 1 плотный куб. метр) | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Деловая древесина (без коры) | | | Дровяная древесина (в коре) |
| | крупная | средняя | мелкая | |
| **Рубки главного пользования** | | | | |
| **Сосна, лиственница** | | | | |
| 1 | 143700 | 123700 | 94700 | 1700 |
| 2 | 101300 | 87200 | 66400 | 1200 |
| 3 | 83900 | 72200 | 54800 | 1100 |
| 4 | 75600 | 64000 | 48200 | 900 |
| 5 | 67300 | 56900 | 42400 | 800 |
| **Ель, пихта** | | | | |
| 1 | 124600 | 107100 | 82200 | 1500 |
| 2 | 88000 | 75600 | 58100 | 1100 |
| 3 | 72200 | 62300 | 47300 | 900 |
| 4 | 64800 | 54800 | 41500 | 800 |
| 5 | 57300 | 49000 | 35700 | 800 |
| **Дуб, ясень, клен** | | | | |
| 1 | 240000 | 206000 | 156100 | 2900 |
| 2 | 168600 | 145300 | 110500 | 2100 |
| 3 | 140300 | 120400 | 91400 | 1700 |
| 4 | 128700 | 109600 | 82200 | 1700 |
| 5 | 117900 | 100500 | 73900 | 1500 |
| **Береза, ольха черная, граб, ильмовые, липа** | | | | |
| 1 | 47900 | 42100 | 33500 | 2600 |
| 2 | 34500 | 30600 | 24000 | 1800 |
| 3 | 26800 | 23000 | 18200 | 1600 |
| 4 | 22000 | 19100 | 13400 | 1400 |
| 5 | 17200 | 14400 | 9600 | 1100 |
| **Осина, ольха серая, осокорь, тополь** | | | | |
| 1 | 10400 | 9200 | 7600 | 400 |
| 2 | 7300 | 6700 | 5500 | 300 |
| 3 | 5800 | 4900 | 4000 | 200 |
| 4 | 4300 | 3700 | 2700 | 200 |
| 5 | 2700 | 2100 | 1500 | 100 |
| **Рубки промежуточного пользования и прочие рубки** | | | | |
| **Сосна, лиственница** | | | | |
| 1 | 86200 | 74200 | 56800 | 1000 |
| 2 | 60800 | 52300 | 39900 | 700 |
| 3 | 50300 | 43300 | 32900 | 600 |
| 4 | 45300 | 38400 | 28900 | 500 |
| 5 | 40400 | 34100 | 25400 | 500 |
| **Ель, пихта** | | | | |
| 1 | 74700 | 64300 | 49300 | 900 |
| 2 | 52800 | 45300 | 34900 | 700 |
| 3 | 43300 | 37400 | 28400 | 600 |
| 4 | 38900 | 32900 | 24900 | 500 |
| 5 | 34400 | 29400 | 21400 | 500 |
| **Дуб, ясень, клен** | | | | |
| 1 | 144000 | 123600 | 93700 | 1700 |
| 2 | 101100 | 87200 | 66300 | 1300 |
| 3 | 84200 | 72300 | 54800 | 1100 |
| 4 | 77200 | 65800 | 49300 | 1000 |
| 5 | 70800 | 60300 | 44300 | 900 |
| **Береза, ольха черная, граб, ильмовые, липа** | | | | |
| 1 | 28700 | 25300 | 20100 | 1600 |
| 2 | 20700 | 18400 | 14400 | 1100 |
| 3 | 16100 | 13800 | 10900 | 1000 |
| 4 | 13200 | 11500 | 8000 | 800 |
| 5 | 10300 | 8600 | 5700 | 600 |
| **Осина, ольха серая, осокорь, тополь** | | | | |
| 1 | 6200 | 5500 | 4600 | 200 |
| 2 | 4400 | 4000 | 3300 | 100 |
| 3 | 3500 | 2900 | 2400 | 100 |
| 4 | 2600 | 2200 | 1600 | 100 |
| 5 | 1600 | 1300 | 900 | 100 |

* * *

В постановлении говорится, что при отпуске древесины при проведении постепенных и выборочных рубок главного пользования, а также из лесов, произрастающих на избыточно увлажненных почвах, таксы на нее снижаются на 20 процентов. (Лесные породы, на древесину которых снижаются таксы на 20 процентов при отпуске ее из лесов, произрастающих на избыточно увлажненных почвах, определяются Министерством лесного хозяйства Республики Беларусь.)

При отпуске древесины, поврежденной пожарами, насекомыми, грибными болезнями, а также при отпуске бурелома, ветровала и сухостойного леса таксы на них могут быть снижены в зависимости от степени утраты технических качеств древесины с учетом местных условий сбыта. При отпуске древесины из лесов на землях, загрязненных радионуклидами с плотностью загрязнения почв цезием-137 от 15 до 40 Ки/кв.км, таксы на нее снижаются на 30 процентов. Снижение такс производится решениями областных органов лесного хозяйства по согласованию с финансовыми управлениями облисполкомов.

Светская хроника

# Парижский отклад идет в лад

Ведущая "Музыкального салона" Элеонора Езерская на днях отправляется в Голландию. Разумеется, не для того, чтобы отдохнуть. Просто там она собирается снять передачу. На сей раз о творчестве Государственного белорусского ансамбля танца под управлением Валентина Дудкевича. После возвращения ни с кем не сравнимая Элеонора планирует приступить к съемкам очередной серии "Музыкальных салонов", в одной из которых будет участвовать заместитель министра культуры Юрий Цветков.

А вообще, Элеонора Аркадьевна немного опечалена. Из-за огромного количества накопившейся неотложной работы ей пришлось перенести долгожданную рождественскую поездку в Париж со своим молодым другом Витали Жукоффым...

**Марина КОКТЫШ.**

Чытач памятае...

# Ці вернуць грошы Кабзон і Эсамбаеў?

Хутка ў нас адбудуцца гастролі Іосіфа Кабзона — вельмі добра! Бо таленту ў гэтага спевака нікому не адабраць. Але мне крыўдна, што ў тандэме Эсамбаеў—Лукашэнка—Чэчня ёсць і Кабзон. Мы ўсе памятаем, як калісьці "бацька" з экрана тэлевізара сказаў, што "мы их достанем из-под земли, а деньги вернем государству!"

Дык вось у мяне пытанне: хто каму гэтыя ўкрадзеныя грошы ў беларусаў будзе вяртаць — Лукашэнка Кабзону ці наадварот? А можа, вернуць грошы тыя баявікі-радуеўцы, якія везлі праз Беларусь грошы ў мэблі? Лічу, што беларускія яўрэі павінны сказаць Кабзону, каб ён вярнуў грошы, украдзеныя ў нас.

**Алесь КАЛЯДНЫ,**
г.Мінск.

## Мытнікі Беларусі і Украіны дамовіліся аб далейшым супрацоўніцтве

Канкрэтныя дзеянні бакоў, накіраваныя на рэалізацыю падпісанага ў 1992 годзе міжурадавага пагаднення аб пунктах пропуску на беларуска-ўкраінскай граніцы, сталі галоўнай тэмай праведзенай у Гомелі сустрэчы старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі Пятра Крэчкі і яго ўкраінскага калегі Леаніда Дзеркача.

Кіраўнікі мытных ведамстваў дамовіліся аб стварэнні сумеснай рабочай групы экспертаў для распрацоўкі праграмы ўпарадкавання пунктаў пропуску на рубяжах дзвюх рэспублік. Як лічаць спецыялісты, рэалізацыя такой праграмы дасць магчымасць стварыць неабходныя ўмовы для ажыццяўлення сумеснага кантролю ў пунктах пропуску на граніцы.

**БЕЛТА.**

Рэзананс

# Міцкевіча замест Леніна

Цалкам падтрымліваю ідэю аб увекавечванні памяці Адама Міцкевіча, выказаную ў адным з артыкулаў "Народнай волі". Я прапаноўваю надаць імя сусветнавядомага паэта з Навагрудчыны сённяшняй вуліцы імя Леніна.

Даўно настаў час развітацца з імёнамі Берсана, Валадарскага, Мяснікова, Маркса, Энгельса, Свярдлова, Кнорына, Куйбышава... Вярнуць вуліцам і плошчам Мінска яго гістарычныя назвы і імёны сусветна вядомых сыноў і дачок Бацькаўшчыны.

**Сяргей ГЕРАСІМЧЫК, жыхар Мінска.**

# Авангардная мода не можа жыць без "Танцуючага рока" і "Амазонак" ...

**Неўтаймаваная мода нараджае неўтаймаваныя эмоцыі. Дазвольце сабе крыху свабоды. Адшукайце такіх жа, як вы, і наладзьце паляванне на маманта...**

Менавіта пад такім дэвізам і з такой мараллю ў сталічным Цэнтры моды прайшоў фестываль авангарднай моды. Ён, як гэта ні падаецца дзіўным, меў і сімвалічную назву — "Мамант-96".

Пачалося ўсё з таго, што вядомая телевядучая Ларыса Грыбалёва ў першабытным адзенні пад такія ж гукі гурта "Барабанны экстаз" праехала вакол подыуму на сімвале фестывалю — маладым прыгожым Маманце. Таму, калі пачаўся сам фестываль, гледачы яшчэ не паспелі апамятацца ад убачанага.

А потым... Чаго тут толькі не было! I "Танцуючы рок", і "Амазонкі", і "Трагедыя д'арт". I нават калекцыя твораў ад сусветна вядомага П'ера Кардэна. Дарэчы, на мінскі фестываль зазірнулі і госці з Масквы: Гарык Семанян дэманстраваў сваю калекцыю адзення "Цветы забвения", Фёдар Дадонаў - "Коралловые рифы".

Аднак галоўнымі героямі фэсту засталіся беларускія мадэльеры. Яны здолелі запэўніць усіх прысутных, што калі і існуе такое паняцце, як забарона слова і думкі, дык гэта ні ў якім разе не датычыцца моды. Асабліва авангарднай.

**Андрэй МАЗАЛЕЎСКІ.**

## Отзовитесь, студенты-анонимы!

В редакцию "Народной воли" поступила копия открытого письма студентов одного из минских университетов министру образования Беларуси. Ребята рассказали о вопиющем положении дел в своей альма-матер, но свои подписи не поставили, так как их "...по указке ректора затравят и выгонят из института".

Мы в редакции верим в искренность авторов этого тревожного письма, но как это принято везде, анонимки не публикуем. Так что, ребята, если хотите увидеть письмо в газете, то зайдите к нам познакомиться: анонимность авторов гарантируем.

У нашых суседзяў

## Правыя застаюцца правымі...

Па ініцыятыве Партыі палітзняволеных і ссыльных у Сейм Літвы прадстаўлены праект закону, які прадугледжвае меры па актывізацыі раскрыцця і вывучэння злачынстваў мінулага супраць літоўскага народа. Гэты праект прадугледжвае аб'яднаць у адным вялікім Цэнтры даследаванні праблем генацыду, Музей ахвяр генацыду, Цэнтр па расследаванню рэпрэсій, архівы былых савецкіх сілавых структур і КП Літвы. Паводле задумы аўтараў праекта, новы цэнтр будзе не толькі даследаваць мінулае, але і даваць фактам юрыдычную ацэнку.

Адначасова па ініцыятыве Дэмакратычнай партыі Літвы ў парадак дня работы Сейма ўключана пытанне аб стварэнні спецыяльнай камісіі, якая будзе абавязана вывучаць факты супрацоўніцтва ў мінулым цяперашніх дэпутатаў Сейма і мясцовых самакіраванняў са спецслужбамі замежных дзяржаў (у першую чаргу маецца на ўвазе КДБ) і ўносіць прапановы, што рабіць з такімі дэпутатамі. Дэпутат Сейма старшыня Дэмакратычнай партыі Саўлюс Печэлюнас, які прадставіў праект, пераконваў, што стварэнне такой камісіі не будзе азначаць пачатак "палявання за ведзьмамі", аднак паслужыць умацаванню даверу народа да сваіх выбраннікаў.

## Прамыслоўцы Літвы гатовы ўзбройвацца

Адбылося расшыранае пасяджэнне прэзідыума Канфедэрацыі прамыслоўцаў Літвы, дзе абмяркоўваліся праблемы абароны прадпрымальніцтва ад злачынных груповак. У прынятым звароце да Сейма і ўрада падкрэсліваецца, што ў Літве распаўсюджваюцца самыя жорсткія формы злачыннасці. У выніку бяздзейнасці дзяржаўных і праваахоўных органаў пануе беспакаранасць, не гарантуюцца самыя элементарныя канстытуцыйныя правы грамадзян, не абаронены гонар і годнасць чалавека, яго ўласнасць і жыццё. Сілы злачыннага свету падзялілі ўжо Літву на сферы ўплыву, а прадпрымальнікі становяцца іх заложнікамі.

Прамыслоўцы Літвы ў катэгарычнай форме патрабуюць ад урада неадкладна прыняць меры па прадухіленню злачынстваў. У Літве ў прыватных структурах аховы працуюць ужо 3000 прафесіяналаў высокага класа. Большасць з іх - былыя работнікі праваахоўных органаў. Таму прамыслоўцы прапануюць аб'яднаць іх намаганні з дзеяннямі дзяржаўных структур. Акрамя таго, прапануецца з дапамогай адпаведных законаў расшырыць правы грамадзян на індывідуальную абарону і спрацціць правілы па набыццю асабістай зброі.

## Прэм'ер Літвы аб'яўляе кампанію знішчэння злачынных аб'яднанняў

"Хто мацнейшы - дзяржава або злачынныя групоўкі?" - такім рытарычным пытаннем пачаў сваю прэс-канферэнцыю прэм'ер-міністр Літвы Гедымінас Вагнорус. Канферэнцыя была прысвечана праблемам барацьбы са злачыннасцю.

Г.Вагнорус заявіў, што ўрад аб'яўляе бязлітасную барацьбу па знішчэнню злачынных груповак і аб'яднанняў, і расказаў журналістам аб мерапрыемствах, ажыццяўленне якіх, на думку прэм'ера, падарве эканамічную і сацыяльную базу злачыннасці. Дзяржава - больш моцны інстытут, і яна можа перамагчы злачынцаў і фінансавых аферыстаў. "Значыць, формы барацьбы дзяржавы павінны быць не толькі актыўныя, але і адэкватныя", - падкрэсліў Г.Вагнорус.

## Арыштаваны рэлігійныя фанатычкі

У канцы мінулага года па Літве пракацілася хваля вандалізму, накіраваная супраць служыцеляў каталіцкай царквы. Зняважлівыя лозунгі на касцёлах, знішчэнне твораў мастацтва, якія там знаходзіліся, абрабаванне касцёлаў. Нядаўна былі затрыманы віноўнікі такіх злачынстваў. Імі аказаліся рэлігійныя фанатычкі - нідзе не працуючая Рэгіна Красаўскайтэ і настаўніца Закону Божага Нерынга Йатэйкайтэ. Апошнюю паліцэйскія забралі ў турму прама з класа 1-ай сярэдняй школы г.Укмерге. Арыштаваныя сцвярджаюць, што яны дзейнічалі па ўказанню Усявышняга ў імя справядлівасці і ісціны.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС, БЕЛТА.**

Печально!

# На кого подняли руку?

Еще года три назад на участке реки Свислочь, от дамбы водохранилища "Дрозды" до ул. Орловской, постоянно зимовало не менее тысячи диких уток. Вода здесь замерзает только при очень сильных морозах, и то ненадолго; корма и тепла достаточно, а главное — человек не тревожил: зиму переживали птицы без проблем. И в конце весны, как положено, выводили мамы-утки на водную гладь длинные вереницы своих малышей.

Прошлогодней весной такая идиллия наблюдалась крайне редко. Большинство доверчивых уток отловили еще зимой. А тем, которым посчастливилось выжить, удалось вывести не более шести-семи утят: люди разоряли кладки.

Дикое браконьерство не прекращалось весь год: уток ловили даже на рыболовные крючки. Я видел стайки осиротевших утят — по четыре и шесть штук. Конечно, без мамаш они выжить не могли.

В конце проспекта Машерова, возле кольцевой дороги, есть озеро Лебяжье — государственный заказник. В прежние времена там действительно жили две-три пары лебедей. Некоторые оставались зимовать, все на том же упомянутом отрезке Свислочи. Предыдущей зимой лебединое семейство из шести особей дотянуло до самой весны. Но на озере, в местах гнездовья, не появилось ни одной пары. Надо полагать, их тоже отловили. А что их ловить, если корм белоснежные красавцы из рук брали безбоязненно.

Вблизи микрорайона "Веснянка" жили крупные выводки куропаток, зайцы по стадиону бегали (иной раз на проспект Машерова под колеса машин выскакивали). Но никто их не трогал. Да что об этой "мелкоте" говорить — лосям в окружающих Минск перелесках не стало житья. Не знаю, как в других местах, но за водохранилищем Дрозды, в округе так называемых правительственных дач и дальше, за кольцевой дорогой, обитало немало лосей. Собирая здесь грибы, я встречал их очень часто. Однажды чуть не наступил на годовалого лосенка — прямо перед самым носом поднялся он из кустов и, не проявив ни малейшего испуга, спокойным шагом ушел прочь. Другой раз почти лоб в лоб я столкнулся с крупным сохатым. От неожиданности как-то не по себе стало: Бог знает, что в его рогатой голове шевелится (читал, что одним ударом копыта матерый лось способен волка намертво уложить). Посмотрел зверь на меня долгим взглядом, постоял секунд двадцать и пошел своей дорогой.

Уже года два лосей здесь не встречал. Съели? А ведь дикие птицы и животные издавна к человеческому жилью стремились: возле человека спокойнее, хищники меньше докучают. Не по доброй воле оставляет зверье хорошо обжитые края!

Что же с нами происходит, отчего мы так быстро очерствели? Не все знакомы с творчеством французского писателя Антуана де Сент-Экзюпери. Но почти все признавали его святой принцип ответственности за тех, кого мы приручили. Животные доверили людям свою судьбу — как же на них поднять руку! Но ведь поднимаем, необратимо теряя важнейшее достоинство человека — милосердие.

Не могу не дополнить свое грустное повествование двумя штрихами. Лебяжье озеро является местом сбора различных видов водоплавающих птиц перед отлетом в теплые края. Великое множество скапливалось их здесь прежде: жировали, набирались сил перед трудной дорогой. Прошлой осенью эти стаи уменьшились вдвое, нынешней — еще вдвое. Значит, и в других районах Беларуси изрядно истребили пернатых. Известный закон "свято место пусто не бывает" в среде диких животных действует безотказно: на одном участке реки зимует, как правило, строго определенное количество птиц, и, если их ареал резко уменьшается, освобожденное пространство немедленно занимают другие. Но минувшей осенью перелетные водоплавающие совсем не задержались на отмеченном участке Свислочи — пролетели мимо. К чему бы это?

— Тяжелой зима будет, — пояснил пожилой крестьянин, постоянно пасущий коров за веснянским стадионом. — Попомните мое слово. Дикая птица наперед беду чует. На то ей Бог разумение дал...

Вот ведь как! Птицы разумение имеют, а мы, люди, — нет! Видно, сильно прогневили мы Создателя, что так долго не возвращает нам разум — бездумием губим сами себя и окружающий нас животный и растительный мир.

**Валентин ЛЕГЕЗА, житель г. Минска.**

# Свадьба должна быть стильной

Свадьба должна быть стильной. Даже если у вас в кармане по двести "баксов", собственную свадьбу можно и нужно сделать стильной. К черту мышкины слезки относительно дороговизн и разорений, связанных с торжеством! К черту газетные материалы о расценках на платья, машины и кольца! Скучно про это читать. За границей выходят кипы журналов, предназначенных исключительно для новобрачных. В этой области тоже есть мода и стиль, которые постоянно меняются. Мы же умудряемся проявлять в этом смысле истинный английский консерватизм: рюшки, фата, кукла на капоте, стол буквой "П" и бесконечные тосты со стороны свидетелей, родителей, гостей, друзей. Красивые старинные свадебные обряды умудрились опошлить до такой степени, что свадьба для жениха и невесты превращаются в принародное "исполнение супружеских обязанностей".

— Стильная свадьба — это когда ничего лишнего, мало суеты, никакой новогодней мишуры и отсутствие ярких цветов. Достойные гости, торжественность — вот что, по мнению Сергея Зверева, "стильная свадьба". — Я за свадьбу в классическом стиле. Когда невеста достойно будет выглядеть на собственной свадебной фотографии и через 20 лет.

В этом осенне-зимнем сезоне платье невесты имеет два варианта. Первый — универсальное: узкое, с открытой спиной, но плотно прилегающее у горла. Вариант второй — молодежный, для очень молоденьких: суперкороткое (шелковое или серебристо-белый "винил"), этакое платье-купальник. К этому платьишку необходимо длинное (почти со шлейфом) белое пальто с огромным капюшоном, чтобы невеста выглядела достойно в церкви на венчании. Особенности нынешнего сезона и в первом, и во втором случаях: только белый цвет и наличие белой норки на манжетах платья или пальто. К универсальному платью подбирают шпильку, к молодежному — туфли на платформе, но на тонком каблуке. Что касаемо украшений — никакой фаты, никаких цветов! Только жемчуг (искусственный и натуральный), волосы должны буквально утопать в жемчуге. Свадебные прически отличаются обилием шелковых искусственных волос, накладных пучков, буклей и даже косичек.

К таким стильным невестам необходимы достойные женихи. В универсальном варианте жених выглядит классически, но модно: черный смокинг (последний писк — удлиненный почти до колен), жилет на много пуговиц, классическая белая сорочка, бабочка (но не на резинке!) и плотно зашнурованная обувь на небольшом каблуке. Для "продвинутых" невест рекомендуется соответствующий жених: белая прозрачная сорочка, шелковые брюки по бедрам, приталенный однобортный пиджак с вывернутыми белыми манжетами, черный шелковый платок, волосы на косой пробор а ля Дольче and Габбана. "Не нужно жениться в джинсах. Даже если джинсы от "Версаче", — взывает Зверев к совести женихов. — Помните и о парфюме, который не должен быть нашатырным спиртом или огуречным лосьоном. Парфюм — это та вещь, которую вы просто обязаны не обновлять в день свадьбы. Невеста же, напротив, обязательно должна сменить духи. На тонкий, очень тонкий запах, который оставляет облако-шлейф".

Кольца надеваются на безымянный палец молодым, а не на крышу машины. Колечко на пальчике невесты в этом сезоне тонюсенькое-тонюсенькое, с несколькими камушками под названиями "бриллиант" и "изумруд". Для жениха колечко просто тоненькое, плоское с внешней стороны и гравировкой (возможно, интимного свойства) на внутренней. Надели колечки? Выдвигайтесь смело на собственное свадебное торжество. Похоже, вас уже ждут гости. (Надеемся, люди интеллигентные.)

Свадьба нового типа отличается этакой холеностью. Либо очень много гостей в очень дорогом пафосном месте, либо узкий круг, который может собираться даже на квартире. Но подобная свадьба больше напоминает вечеринку: со стенгазетой, шарами, бантами, лентами, танцульками. Близкие друзья могут собраться и на загородной даче с шашлыком, камином и музыкой. Или выехать в теплые заграничные края. Посещение памятников архитектуры (типа "Макдоналдса", Вечного огня и Ленинских гор) лучше ограничить церковью, где вы, надеемся, намерены венчаться. Слава Богу, этот обряд еще не опошлили!

Надеемся, у вас также хватит ума и сообразительности, чтобы не устроить первую брачную ночь в поезде Москва — Самара. Без свадебного путешествия, разумеется, нельзя. Как и без медового месяца. Но не проще ли купить билеты на так называемый "второй день свадьбы", на котором гости имеют обыкновение опохмеляться? Хотя, конечно, никто не сможет предугадать, сколько продлится первая брачная ночь, — знавали мы парочек, растягивающих ее, родимую, на трое суток... Первая брачная ночь должна остаться в памяти на всю жизнь. Даже если в вашей жизни эта самая ночь далеко не первая. Вы, дорогие брачащиеся, помните главное — эта ночь отличается от всех остальных романтикой, чистотой и нежностью. Во всем — начиная от ваших простыней и заканчивая сексом. Мы даем несколько вариантов украшений этой ночки. И упаси ваших маменек-бабушек бить горшки у альковного порога: пусть они катятся куда подальше со своими обычаями!

— Целая комната шаров. Шаров, шаров, шаров.

— Ванная с ведерком шампанского. Абсолютно без электричества — только свечи. Свечи, свечи, свечи.

— Шикарный отель. В шикарных отелях есть услуга для новобрачных. Торт в виде сердца — в номер. Умиляющие бантики на занавесках. Клубника и шампанское на столе. Лимузины (в оба конца: на вечер и на утро). Главное — заранее все обговорить с управляющим.

— Есть вариант от Зверева. Белоснежные шторы на окнах. Сказочная кровать с белоснежным шатром и роскошным шелковым бельем, расшитым шитьем. Белые-белые посуда и цветы. Столик, сервированный на двоих, включает шампанское, свечи, коробку шоколадных конфет и фрукты.

Жених, алло! Что застыл изваянием? Немедленно чмокни ее в нос — она же волнуется...

**В.САРЫКИНА,**
***"Московский комсомолец"***

